# Еўропа для беларускіх прадпрымальнікаў

1. Выхад на рынак аб’яднанай Еўропы

2. Доступ да новых крыніцаў фінансавання

3. Падвышэнне канкурэнтаздольнасці і новыя спосабы вядзення бізнесу



Беларускі Еўрапейскі Форум

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Еўрапейскі саюз мае спецыяльную праграму для супрацы з суседзямі на ўсходзе, у тым ліку і з Беларуссю. Гэта праграма Еўрапейскай палітыкі добрасуседства і Усходняга партнёрства.

Паміж 1991 і 2006 гг. Еўрасаюз выдаткаваў Беларусі на развіццё краіны 229 млн. еўра, ці 23,6 еўра на аднаго жыхара. Гэта значна менш, чым мелі іншыя краіны-суседзі Еўрасаюзу. Грузія атрымала прыкладна 110 еўра на чалавека, Малдова — 73, Украіна — 52.

Каб напоўніцу карыстацца з дапамогі Еўрасаюзу, Беларусь павінна падпісаць з ім Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве, рэалізацыя якога была перапыненая ў 1996 г. праз парушэнні ў нашай краіне правоў чалавека і прынцыпаў дэмакратыі. Пасля таго як Беларусь далучыцца да гэтай праграмы, будзе распрацаваны План дзеянняў, індывідуальны для кожнай краіны. На сённяшні дзень толькі 3 з 16-ці краінаў-удзельнікаў праграмы «Палітыка добрасуседства» не падпісалі аніводнага з трох асноўных дакументаў праграмы — гэта Беларусь, Лівія і Сірыя.







А між тым падтрымка Еўрасаюзам палітычных, эканамічных ды сацыяльных пераўтварэнняў у Беларусі можа значна палепшыць жыццё нашых грамадзянаў.

**Па-першае**, беларусы атрымаюць права наведваць краіны Еўрасаюзу без візаў, а таксама вучыцца там і працаваць.

**Па-другое**, падвысіцца эфектыўнасць працы дзяржаўнай і мясцовай адміністрацыяў, судовай сістэмы, мадэрнізуецца адукацыя, палепшыцца якасць медыцынскіх і камунальных паслугаў, дадатковую падтрымку атрымаюць рэгіёны і сем'і, пацярпелыя ад Чарнобыльскай аварыі.

**Па-трэцяе**, беларусам будзе гарантаваная абарона іх правоў і свабодаў. Рашэнні беларускіх судоў можна будзе аспрэчваць у найвышэйшых еўрапейскіх інстанцыях, а беларускае права і практыка правапрымянення нармалізуецца згодна з еўрапейскім заканадаўствам.

# ШТО АТРЫМАЮЦЬ АД ЕЎРАІНТЭГРАЦЫІ БЕЛАРУСКІЯ ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ?

## 1 Выхад на рынак аб'яднанай Еўропы

**а Паніжэнне, а з цягам часу поўнае скасаванне мытаў на прадукцыю беларускіх прадпрымальнікаў, а таксама на імпартныя сыравіну і камплектавальныя дэталі**

Але рух у кірунку «Еўропы без межаў» магчымы толькі пасля падпісання Плану дзеянняў з Еўрасаюзам. Украіна ўжо зрабіла гэта, таму ў 2008 г. афіцыйна распачаліся перамовы па шматбаковай дамове аб вольным гандлі. Да адпаведных перамоваў рыхтуюцца Арменія і Грузія.

**б Скасаванне нетарыфных бар'ераў**

Еўрасаюз вядомы сваімі высокімі фітасанітарнымі патрабаваннямі да імпартнай прадукцыі. Распачатыя перамовы і з Беларуссю ў пытаннях імпарту сельскагаспадарчай прадукцыі ды фітасанітарных нормаў.

**в Магчымасць наладжвання бізнесу ў краінах Еўрасаюзу**

У Плане дзеянняў для Украіны прадугледжваецца стварэнне на еўрапейскі ўзор нацыянальнага рэгістру для прадпрыемстваў малога бізнесу з магчымасцю далучэння краіны да агульнаеўрапейскага рэгістру — гэта дапаможа малым прадпрыемствам знізіць выдаткі на пошук партнёраў і рэкламу, палегчыць выхад на еўрапейскі рынак.

**г Новыя магчымасці для беларускага бізнесу ў краінах, што бяруць удзел у праграме «Палітыка добрасуседства»**

Еўрасаюз мае не толькі двухбаковыя сувязі з усімі сваімі суседзямі, але і дапамагае наладзіць іх паміж усімі краінамі праграмы «Палітыка добрасуседства». З гэтай мэтай для Усходняй Еўропы і Паўднёвага Каўказу выдзелена 40 млн. еўра. Сродкі будуць накіроўвацца



на самыя розныя праграмы: узмацненне культурніцкай палітыкі і грамадзянскай супольнасьці, наладжванне сетак малых і сярэдніх прадпрымальнікаў, памежнае кіраванне, паляпшэнне экалагічнай сітуацыі.

## 2 Доступ да новых крыніцаў фінансавання

### а Магчымасць карыстацца сродкамі «Інвестыцыйнай праграмы»

Агулам у межах «Інвестыцыйнай праграмы» для краінаў-суседзяў на перыяд 2007—2013 гг. Еўрасаюзам выдзелена 700 млн. еўра. Толькі на 2009 г. выдаткавана 70 млн. еўра на праекты ў сферах энергетыкі, транспарту, навакольнага асяроддзя, а таксама на развіццё малога і сярэдняга бізнесу ды сацыяльнай сферы. Беларусь пакуль не ўваходзіць у лік тых краінаў, якія ахоплівае «Інвестыцыйная праграма», аднак яна ўжо можа карыстацца адмысловым Інструментам для рэалізацыі сумесных праектаў з краінамі, што атрымліваюць інвестыцыі ад Еўрасаюзу.

### б Магчымасць скарыстоўваць фінансы Еўрасаюзу праз адмысловы Інструмент «Палітыкі добрасуседства»

Беларусі на перыяд 2007—2010 гг. выдзяляецца 20 млн. еўра, з іх 70% — на сацыяльнае і эканамічнае развіццё і 30% — на дэмакратычныя пераўтварэнні і паляпшэнне дзяржаўнага кіравання. Дапамога Еўрасаюзу будзе скіраваная і на сектар малога ды сярэдняга бізнесу.

**в Праграма інвестыцыйнай падтрымкі малога прадпрымальніцтва**

Адна з ініцыятываў Еўрасаюзу скіраваная на мабілізацыю сумеснага фінансавання з удзелам міжнародных фінансавых інстытутаў ды інвестыцыяў прыватнага сектару. Еўрапейскаму інвестыцыйнаму банку было прапанавана падтрымаць малы і сярэдні бізнес у межах мандата банка ў праграме «Палітыка добрасуседства».

## 3 Падвышэнне канкурэнтаздольнасці і новыя спосабы вядзення бізнесу

**а Засваенне досведу вядзення бізнесу ў Еўрасаюзе**

Прадугледжаныя міжасабовыя кантакты, наведванне прадпрымальнікамі краінаў Еўрасаюзу, практыка на еўрапейскіх прадпрыемствах, арганізацыя трэнінгаў, тэхнічная дапамогаў.

**б Стварэнне новых ці далучэнне да дзейных міжнародных альбо рэгіянальных сетак прадпрымальнікаў**

У Еўрасаюзе пасяхова дзейнічае Сеціва еўрапейскіх прадпрымальнікаў, да якога можа далучыцца і Беларусь, падпісаўшы Еўрапейскую хартыю малога бізнесу.

**в Дапамога ў дасягненні стандартаў ISO**

Да прыкладу, План дзеянняў для Украіны прадугледжвае магчымае далучэнне краіны да «Дамовы аб пацвярджэнні адпаведнасці і атэстацыі прамысловых тавараў».

**г Падвышэнне канкурэнтаздольнасці малых і сярэдніх прадпрыемстваў сельскай мясцовасці**

План дзеяння для кожнай краіны абавязкова ўключае стратэгію развіцця сельскай мясцовасці, у тым ліку і праз малое прадпрымальніцтва. Напрыклад, Арменіі была прапанаваная структурная, інстытуцыйная, юрыдычная і адміністрацыйная падтрымка ў актывізацыі развіцця сельскай мясцовасці і павышэнні якасці прадукцыі.






**д) Разгортванне дзелавога асяродку і адпаведнай інфраструктуры**

Пераход на еўрапейскія стандарты вядзення бізнесу перадусім азначае празрыстасць і законнасць, барацьбу з карупцыяй і бюракратычнай марудай. Гэты працэс ужо распачаўся і ў Беларусі — Еўрапейская камісія наладзіла дыялог з Мытным камітэтам рэспублікі.

**е) Укараненне сучасных тэхналогіяў на малых і сярэдніх прадпрыемствах**

У кастрычніку 2008 г. адбыўся сумесны семінар у пытаннях правоў інтэлектуальнай маёмасці, у якім бралі ўдзел Беларусь, Алжыр, Сірыя, Еўракамісія і Еўрапейскае патэнтавае бюро.

А калі казаць увогуле, дык краіны Еўрасаюзу рухаюцца цяпер да «Інфармацыйнага грамадства», разбудове якога спрыяюць сучасныя інтэрнэт-тэхналогіі, пашырэнне зоны доступу да інтэрнэту, укараненне электроннага прадпрымальніцтва і электроннай дзяржадміністрацыі. Гэта дапамагае зрабіць малы і сярэдні бізнес больш дынамічным і прыбытковым. Таму мы абавязаныя як мага хутчэй далучыцца да тых тэхналогіяў, якімі ўжо валодаюць краіны Еўрасаюзу.



« Цывілізацыйна, гістарычна і культурна Беларусь — неад’емная частка Еўропы.

Незалежнасць, дэмакратыя, росквіт і далейшае развіццё нашай Бацькаўшчыны наўпрост залежаць ад пасьпяховасці нашых намаганняў па інтэграцыі ў еўрапейскую эканамічную і палітычную прастору. Гэта гістарычны выклік для нашай краіны, уладаў і грамадзянскай супольнасці.

Я веру ў еўрапейскі шлях і будучыню Беларусі. »

Аляксандр Мілінкевіч
*старшыня Руху «За Свабоду»*


**Рух «За Свабоду»**
**www.milinkevich.org**
**п/с 148, Мінск, 220005**

**Аргкамітэт Беларускага Еўрапейскага Форуму**
**www.euraforum.info**

**Прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ў Беларусі**
**www.delblr.ec.europa.eu**




Беларускі Еўрапейскі Форум


Наклад 2000 ас. Замова №215.
Надрукавана на абсталяванні выдавецтва «Лорэнс-прэс», г. Смаленск